


**СПАДАРОЖНІКА-ВАЕ!** ● БТ, РТР, Астанкіна, НТБ С.-Пецярбург, Польшча-1, Польшча-2.

***НЕ ХАЧУ ЖЫЦЬ!***

На Гарадзеншчыне рэзка павялічылася колькасьць самагубстваў... Спыніць хвалю суіцыду і прызначаны цэнтр сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі.

**Калі табе кепска і ніхто ня можа дапамагчы, набяры нумар 077.**

***ст. 3***



***ЧАТЫРЫ ТРУПЫ***

Нябожчыкаў прывезьлі з Расеі...

Пры выдачы целаў з трупярні са сваякоў загінуўшых запатрабавалі па 600 тыс. руб. за кожнага.

***ст. 8***






6 лістапада ноччу на большай частцы вобласьці кароткачасовыя дажджы. Тэмпература +6-11 градусаў. 7-8 лістапада хмарна, часамі дажджы. Тэмпература ноччу +2-7. 7-га ўдзень +7-12, 8-га +5-8.



# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

*№ 45 (192) • 6 - 14 лістапада 1996 г. • Кошт свабодны*


## ЗАКЛІКІ ДА РЭФЕРЭНДУМУ

**Усе людзі нашай Беларусі падзеленыя на ворагаў Прэзідэнта і на тых, хто яшчэ ня стаў ворагам. Рэферэндум дэмакратычна дае магчымасьць ворагам самастойна вырашыць пытаньне,ці будзе да іх ужыта сьмяротнае пакараньне, ці не. У гэты адказны момант масавага самагубства заклікаем не адрывацца ад народа, прыйсьці да выбарчых урнаў і даказаць сваю варожую сутнасьць. Паколькі ворагі ёсьць усюды, зьвяртаемся да ўсіх шпіёнаў, дыверсантаў, наймітаў капіталу і замаскіраваных сіяністаў, да ўсіх людзей злой волі: усе на выбары! Галасуй, каб справядлівасьць не ўзяла верх!**

● Рабочыя, якім ня плоцяць заробку! Патрабуйце выплаты зарплаты! Гэта самы варожы акт сацыяльнага непадпарадкаваньня!

● Калгасьнікі! Ні пядзі зямлі ва ўласнае карыстаньне! Без абмежаваньняў - толькі бруд на дарогах!

● Творчая інтэлігенцыя, працягвайце ачарняць сучасную рэчаіснасьць, пісаць ілжывыя раманы і здымаць паклёпніцкія фільмы! Сорас вам у дапамогу!

● Тэхнічная інтэлігенцыя! Заваліце пад завязку склады нікому не патрэбнай прадукцыяй!

● Салдаты, сяржанты, афіцэры і генералы! Умацуем бясьпеку дзяржавы шляхам разьмяшчэньня на яе тэрыторыі вайсковых базаў замежных краінаў!

● Міліцыянты і АМАПаўцы! Любы чалавек можа аказацца злачынцам - не шкадуй ні сустрэчнага, ні папярэчнага!

● Жанчыны і дзяўчаты, не адцягвайце ўвагу мужчынаў ад яднаньня вакол усенароднаабранага Правадыра! Выходзьце замуж толькі за прыхільнікаў Прэзідэнта!

● Моладзь, уступайце ў шэрагі ліберал-дэмакратаў Жырыноўскага, вернага сябра Усенароднаабранага! Вучыцеся жыць і працаваць па-ціцянкоўскі!

● Навукоўцы! Дакажыце раз і назаўсёды, што сталь - чорная, што ўсе шляхі вядуць у СССР, а целы пры награваньні расшыраюцца выключна па волі Замяталіна!

● Камерсанты! Перадавайце свой бізьнес у рукі дзяржавы! Хай жыве абагульненьне і экспрапрыяцыя!

● Спартоўцы, вышэй ісламскі сьцяг спорту!

● Настаўнікі! Вучыце дзяцей роднай мове, сапраўднай гісторыі і літаратуры, і вы яшчэ больш нашкодзіце свайму народу!

● Дактары! Бярыце ў пацыентаў напярэдадні лячэньня падпіску аб лаяльнасьці Пану Прэзідэнту!

● Агенты ўплыву ЦРУ, Масада, МІ-6, Штазі, Ватыкана, УНА-УНСО, МВФ, Сюртэ, НАСА і асабіста містэра Мэцью! Укладвайце грошы ў дабрабыт нашых грамадзянаў!

● Расейцы! Вылучайце нашага Прэзідэнта ў свае!

● Палякі! Бярыце прафсаюзны рух у сваe рукі!

● Летувісы, зьніміце ўсе межы, каб наш народ разлагаўся, гледзячы на плады незалежнасьці і рэформаў!

● Украінцы, запісвайце ў сваё грамадзянства аўтаматычна ўсіх, чыё прозьвішча заканчваецца на «о»!

● Палітычныя партыі, грамадзкія арганізацыі, самадзейныя суполкі! Вывучайце прамову А.Р.Лукашэнкі пры адкрыцьці футбольнага матчу «Ветэраны-вертыкаль»!

**Выканаўчы камітэт аб'яднанага Кангрэсу ворагаў народу і беларускага Прэзідэнта.**

## ПРЫВІД РАЗДВАІЎСЯ

**Упершыню за ўсю гісторыю камуністычнага руху ў Горадні чарговыя ўгодкі бальшавіцкай рэвалюцыі 7 лістапада будуць сьвяткаваць дзьве розныя арганізацыі камуністаў. 31 кастрычніка ў Доме афіцэраў пад час сходу ветэранаў усіх войнаў праводзіўся запіс у «сапраўдную» камуністычную арганізацыю, якая нічога агульнага з «дэгенератамі» Новікавым і Калякіным мець ня будзе.**

Сёньня а 16-й гадзіне ў гарадзенскім Палацы культуры тэкстыльшчыкаў пройдзе ўрачысты сход, прысьвечаны Дню рэвалюцыі, а заўтра, а 12-й гадзіне, на пляцы Леніна камуністы і іх прыхільнікі правядуць мітынг.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## КУЗЬМА АБ'ЯВІЎ ВАЙНУ САМАГОНУ

**З прыходам новага кіраўніка адміністрацыі Сьвіслацкага раёну Анатоля Кузьмы тут разгарнулася сапраўдная антысамагонная вайна. За два тыдні работнікамі міліцыі ў насельніцтва раёну канфіскаваны 41 самагонны апарат. На парушальнікаў накладзеныя штрафы ад 300 да 500 тысячаў рублёў.**

Як паведаміў начальнік аддзелу прафілактыкі Сьвіслацкага РАУС Анатоль Балбот, рэйды праводзіліся ня толькі ў райцэнтры, але і ў самых глухіх месцах раёну - у Белавежскай пушчы. У раёне назіраюцца новыя тэндэнцыі - павелічэньне памераў і прадукцыйнасьці апаратаў, якія становяцца падобнымі да маленькіх спіртзаводаў. «Мы іх зьнішчаем на месцы, — сказаў А.Балбот, — таму што з глухога месца пушчы вывезьці іх без верталёта немагчыма». Але першыя вынікі акцыі «адмоўна» адбіліся на цане «сівухі», бутэлька якой падаражала на мясцовым рынку адразу на 5 тысячаў рублёў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## ТЫТУНЁК АД ІВАНА

**У курцоў Беларусі хутка будзе радасьць. Днямі у крамах павінны зьявіцца балгарскія цыгарэты, якія ня значна, ды ўсё ж таньнейшыя за амерыканскія. Але, распакоўваючы пачак «Ту», ня кожны будзе ведаць, каму ён абавязаны сваім шчасьцем.**

Справу прасьвятліў дырэктар адной з лідзкіх гандлёвых фірмаў. На мінулым тыдні яму патэлефанаваў начальнік з Горадні і запытаў:

- Ты завёз балгарскія цыгарэты?

- Яшчэ не.

- Вязі хутчэй, яны ідуць па лініі Ціцянкова. У каго на момант праверкі не акажацца, выляцяць з працы.

Дырэктар тут жа кінуўся выконваць, бо, ведаючы Івана Іванавіча, ськеміў, што тут пахне вялікім наварам. Канешне, не яму, а Івану Іванавічу, таму што цыгарэты пройдуць мяжу хутчэй за ўсё бяз выплаты мытных падаткаў, а ўся акцызная накрутка зьбярэцца не ў бюджэт, а на сьпецрахунак, ці ў сьпецфонд.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

## ПАДЗЯКА

Сардэчна дзякую медперсаналу гінекалагічнага аддзяленьня 4-й гарбальніцы Горадні за ўсё, што было зроблена для майго здароўя. Аперацыя, зробленая залатымі рукамі хірурга Міцкевіч Ніны Іосіфаўны, дапамагла мне ўстаць на ногі. Вялікі дзякуй загадчыку гінекалагічнага аддзяленьня Андрэю Яўгенавічу Касьцяхіну і клінічнаму ардынатару Алене Леоньцьяўне Саваневіч за дапамогу. Нізкі вам усім паклон.

**Валянціна Фарманян**

## ЛЁС ВЫРАШЫЛІ ДВА ГАЛАСЫ

**Учора ў Менску на пасяджэньні Вярхоўнага Савету адбылося абмеркаваньне Пастановы "Аб унясеньні зьмяненьняў у рашэньне Вярхоўнага Савету "Аб правядзеньні рэспубліканскага рэферэндуму". Згодна апошняй пастановы Канстытуцыйнага Суду пытаньні па папраўках, а насамрэч па новых Канстытуцыях, прапанаваных Прэзідэнтам і фракцыямі камуністаў ды аграрыяў, ня могуць выносіцца на абавязковы рэферэндум.**

Каб заблакаваць прыняцьцё дэпутатамі аналагічнага рашэньня, на сэсію быў накіраваны "правая рука" Прэзідэнта, кіраўнік ягонай Адміністрацыі Міхаіл Мясьніковіч. Але ўмела ўнесеныя намесьнікам старшыні Вярхоўнага Савету Генадзем Карпенкам прапановы па галасаваньню па частках праекту ўвялі ў разгубленасьць і без таго ня вельмі разваротлівых прыхільнікаў Прэзідэнта. Прагаласаваўшы за тыя пытаньні, якія ёсьць у рэферэндуме абавязковыя і за ўсю пастанову цалкам, яны толькі потым убачылі, што пытаньне Канстытуцыі туды не ўвайшло.

Лёс гэтага галасаваньня вырашылі два галасы.

**Людвік Валынец.**

## ХЛЕБ З ЧЭСКАЙ ПЕЧЫ

**Учора на Гарадзенскім хлебазаводзе была запушчаная ў працу новая лінія па вытворчасьці хлебу.**



ФОТА: У.УЛАДАСЕВІЧА.

Як паведаміў «ПАГОНІ» генеральны дырэктар аб'яднаньня "Гроднахлебпрам" Іван Яцэнка, лінія абышлася прадпрыемству ў 750 долараў. Куды больш каштуе чэская печ - 200 тысячаў. 30% выдаткаў аплаціў камітэт хлебапрадуктаў пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі. Акупіцца лінія павінна за два гады. Штодзённа яна будзе выпускаць каля 20 тысячаў боханаў сьвежага жытняга хлебу.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## НОВЫЯ РЫНКІ

**У Горадні плануецца стварыць яшчэ 3 мікрарынкі.**

Згодна з рашэньнем гарвыканкаму, яны будуць мясьціцца ў раёне апошняга прыпынку транспарту на Фолюшы па вуліцы Л.Чайкінай, на вуліцы Кабяка і на вуліцы Урублеўскага. Праектаваньнем новых рынкаў займаецца таварыства з абмежаванай адказнасьцю «Рэчавы рынак».

**В.ДРЭМА.**

## ЛЕТУВІСКІ ПА НЯДЗЕЛЯХ

**Другі навучальны год распачала нядзельная летувіская школа ў Горадні.** Як і ў мінулым годзе, пачатку заняткаў папярэднічалі вялікія клопаты, у асноўным з-за памяшканьня. Выявілася, што арэндаваць клас ці кабінет на адзін дзень у тыдзень у Горадні - вялікая праблема. Уладальнікі памяшканьняў ці заломвалі несусьветную цану ці мовілі са спачуваньнем: мы ўсёй душой, дык вось бяда - у нядзелю няма каму будзе дзьверы адчыніць...

Як і ў мінулым годзе, дапамагло вучылішча культуры, хаця ніякіх выгодаў для сябе, хутчэй за ўсё, мець ня будзе, але не адмовіла -культурныя людзі!



Вучні, сярод якіх і падлеткі, і сталыя людзі, настаўнікаў сустрэлі як старых і добрых знаёмых: і ў гэтым годзе летувіскай мове іх будуць вучыць педагогі з Друскенікскай сярэдняй школы, якая носіць знакамітае імя Адраджэньня. А прывёз іх сам мэр гораду Друскенінкай Вітаўтас Янoніс. Толькі што ў Летуве прайшлі парламенцкія выбары, у выніку якіх да ўлады прыйшлі сілы, якія абяцаюць аддаваць суайчыньнікам на Беларусі куды больш увагі, чым да гэтага часу:

- У адносінах Горадні мы выношваем вельмі амбіцыёзныя планы! -крыху таямніча сказаў В.Янoніс.

Пасьля ўрачыстых слоў былі... безумоўна, песьні, таму што летувісаў, якія не пяюць, у прыродзе не існуе. Тут гарадзенцы не падкачалі. Асабліва выдзялілася Генавайтэ Шведка з Грандзічаў, прычым летувіскія песьні яна сьпявала так, як і ў самой Летуве ўжо не пяюць. Ведай гарадзенцаў, ага!

**Лявон ДАЎГЯЛА.**

## НЯ ЎСЁ БЛАГА

**Нядаўна фірму «Лідаграпраммаш» наведала салідная міжнародная камісія з Нідэрландаў. Камісія дасьледавала прадукцыю фірмы і зрабіла выснову: яна адпавядае сусьветным стандартам і можа заваяваць заходні рынак. А вось вестка з іншага боку:**

«Лідзкі аўтарамзавод. Рэспубліка Беларусь.

*Маю гонар паведаміць вам, што савет дырэктароў Нацыянальнага Інстытуту прадставіў вас да ўзнагароды «Міжнародная алмазная зорка за якасьць». Кіраўніцтва Нацыянальнага Інстытуту і прафесіяналы ў вобласьці маркетынгу, сувязяў і культуры Амерыкі, Еўропы і Афрыкі, уручаць лідзкаму аўтарамзаводу ўзнагароду на ўрачыстым абедзе ў г.Мехіка.*

З сардэчным прывітаньнем доктар Рафаэль Фернандэс Лопес, прэзідэнт».

## НЯЎДАЛЫЯ САМАГУБЦЫ...

За кастрычнік у Ашмянах зафіксавана сем няўдалых выпадкаў самагубстваў.

ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД ДАЗВОЛІЎ ЛУКАШЭНКУ ПАРАІЦЦА З НАРОДАМ. АЛЕ КАНСУЛЬТАТЫЎНА.

**Закрываючы 4 лістапада дзённае пасяджэньне Канстытуцыйнага Суду Беларусі, яго старшыня Валерый Ціхіня аб'явіў, што сваё заключэньне Суд абвесьціць у той жа дзень прыблізна а 18-й гадзіне. Да гэтага часу невялікая зала пасяджэньняў КС і суседнія памяшканьні былі запоўненыя журналістамі, палітыкамі, служачымі дзяржустаноў. Але толькі ў 19.15 распарадчык абвясьціў: «Устаць! Суд ідзе!».**

Асноўныя высновы Суду абвешчаныя В.Ціхінем: «Вярхоўны Савет Беларусі меў права прыняць пастанову «Аб правядзеньні рэспубліканскага рэферэндуму ў РБ і захадах па яго забесьпячэньні», паколькі ў дзеючай Канстытуцыі ня вызначаныя хоць нейкія нормы на кольказсьць і якасьць зьмяненьняў і дапаўненьняў у Канстытуцыю. Вярхоўны Савет, аднак, павінен вярнуцца да сваёй пастановы і перагледзець яе, паколькі ў праекты — і «прэзідэнцкі», і «парламацкі» — унесеныя новыя зьмяненьні. Пры гэтым варта выправіць і форму бюлетэня: у ім павінны быць пытаньні, а не сьцьвярджэньні, як у пунктах 2.2 і 2.5 («Прыняць Канстытуцыю 1994 г. са зьмяненьнямі і дапаўненьнямі...»). Адзначаны таксама алагізм: навошта прымаць дзеючую Канстытуцыю яшчэ раз! Рэзалюцыйная частка рашэньня КС сфармуляваная наступным чынам: прызнаць не адпаведным Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункт 3 Пастановы Вярхоўнага Савету ад 9.09.1996 у частцы вынясеньня праектаў зьмяненьняў і дапаўненьняў на абавязковы рэферэндум. Лічыць яго ня маючым сілы з дня апублікаваньня. Вярхоўнаму Савету прапаноўваецца прывесьці сваю пастанову ў адпаведнасьць з прынятым Канстытуцыйным Судом рашэньнем. Па справе маецца асобнае меркаваньне суддзяў КС Рыгора Васілевіча, Ксеніі Кенік і Рымы Філіпчык. На пытаньне, у чым яно заключаецца, Р.Васілевіч адзначыў: «З артыкулаў 74 і 149 Канстытуцыі можна зрабіць выснову, што вызначэньне абавязковасьці альбо кансультатыўнасьці рэферэндуму зьяўляецца прэрагатывай ініцыятара рэферэндуму. Апрача таго, калі КС узбуджае справу па сваім меркаваньні, то ні па Канстытуцыі, ні па Законе аб КС ён ня можа рабіць заключэньні, якія зьяўляюцца абавязковымі».

**КАМЕНТАР:** *Суддзя Канстытуцыйнага Суду Беларусі Міхаіл Пастухоў пракаментаваў заключэньне Канстытуцыйнага Суду па справе аб адпаведнасьці Канстытуцыі і законам рэспублікі Пастановы Вярхоўнага Савету ад 9 верасьня «Аб правядзеньні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і захадах па яго забесьпячэньні». М.Пастухоў адзначыў, што КС практычна ня супраць таго, каб прэзідэнт параіўся з народам. КС лічыць, што Вярхоўны Савет меў права вынесьці адпаведныя пытаньні на рэферэндум, але пры гэтым меркаваньне народу павінна насіць не абавязковы, а толькі кансультатыўны характар. Гэта, на думку М.Пастухова, адпавядае сусьветнай практыцы канстытуцыйнага будаўніцтва, калі звычайна апытаньне насельніцтва папярэднічае прыняцьцю рашэньня кампетэнтнымі ворганамі. Праўда, бывае і наадварот: парламант прымае прававое рашэньне і толькі потым выносіць яго на рэферэндум. Згодна з практыкай канстытуцыйнага будауніцтва, пры ўнясеньні зьмяненьняў і дапаўненьняў у Канстытуцыю рашаючае слова належыць парламанту як вышэйшаму прадстаўнічаму і заканадаўчаму воргану краіны. У нас жа Вярхоўны Савет у дадзеным выпадку аказаўся адхіленым у нейкай ступені ад канстытуцыйнага працэсу. Гэта, заявіў М.Пастухоў, не адпавядае Канстытуцыі Беларусі і сусьветнай практыцы канстытуцыйнага будаўніцтва. Суддзя КС адзначыў і такі момант: «Для прыняцьця Канстытуцыі павінна існаваць асаблівая працэдура, яна служыць гарантыяй стабільнасьці Асноўнага закону, перасьцерагае ад пасьпешлівых рашэньняў. Пакуль жа яе ў нас, на жаль, няма. З другога боку, Закон аб рэферэндуме патрабуе, каб грамадзяне рабілі сьвядомы выбар, а для гэтага яны павінны быць азнаёмленымі са зьмяненьнямі і дапаўненьнямі ў Канстытуцыю. Папраўак жа аказалася занадта шмат». У сусьветнай практыцы, па словах М.Пастухова, ня прынята галасаваць за ўвесь пакет зьмяненьняў і дапаўненьняў у цэлым. Звычайна кожнае зьмяненьне і дапаўненьне афармляецца для вынясеньня на рэферэндум асобна. У іншым выпадку меркаваньні людзей могуць быць толькі арыенцірам для прыняцьця рашэньняў кампетэнтнымі ворганамі, у дадзеным выпадку — парламантам. Такім чынам, заявіў М.Пастухоў, КС наогул не перашкаджае правядзеньню рэферэндуму, «лакаматывам» якога выступіў прэзідэнт. КС унёс толькі невялікія папраўкі ў правілы правядзеньня рэферэндуму з улікам палажэньняў дзеючай Канстытуцыі, становішча ў краіне і міжнароднай практыкі. «Суд палічыў, — сказаў М.Пастухоў, — што меркаваньне народу ў дадзеным выпадку ня можа быць абавязковым, хаця кампетэнтныя ворганы павінны прыняць рашэньне па вынесеных на рэферэндум пытаньнях з улікам меркаваньня народу. Аднак гэтае меркаваньне павінна быць кампетэнтным, узважаным і строга прававым».*

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

# ЗША ЗАКЛІКАЮЦЬ ДА АДКРЫТАГА І СУМЛЕННАГА ДЫЯЛОГУ

**Злучаныя Штаты будуць працягваць пераконваць прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку і кіраўніцтва беларускага парламанту ў неабходнасьці прытрымлівацца курсу, які не абвастрае тыя супярэчаньні, што ўжо разьдзіраюць Беларусь, - заявіў 30 кастрычніка Джэк Сігал - кіраўнік аддзела па справах Украіны, Беларусі і Малдовы ў Дзяржддэпартаманце ЗША - на брыфінгу, арганізаваным Камісіяй па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Еўропе Кангрэсу ЗША. Ён таксама падкрэсьліў, што ўрад ЗША ня мае намеру дыктаваць, якую форму праўленьня ці эканомікі трэба выбраць беларускаму народу. Спадар Сігал адзначыў, што Злучаныя Штаты хацелі б бачыць адкрыты і сумленны дыялог паміж прэзідэнтам і парламантам Беларусі.**

Для таго, каб народ зрабіў правільны выбар падчас рэферэндуму, намечанага на 24 лістапада, дадаў ён, усе бакі павінны мець доступ да сродкаў масавай інфармацыі, і ў краіне павінна быць створаная «абстаноўка палітычнай цярпімасьці», якая прадугледжвае забесьпячэньне свабоды слова. «Мы па-ранейшаму лічым, што любы рэферэндум, які праводзіцца ў абстаноўцы фактычнай інфармацыйнай блакады, ня можа выклікаць даверу і зьяўляецца парушэньнем правоў чалавека», - адзначыў спадар Сігал і дадаў, што Еўрапейскі Саюз, Савет Еўропы, Арганізацыя па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, а таксама ўрады многіх краінаў публічна выказалі такую ж думку. Спадар Сігал заявіў, што Злучаныя Штаты «ня лічаць, што дзеючая Канстытуцыя Беларусі ня можа быць зьмененай, але зьмяненьні і дапаўненьні ў Канстытуцыю павінны захоўваць сістэму стрымліваньня і супрацьвагі, прынцыпы раздзяленьня ўладаў і вяршэнства закону». Аднак зьмяненьні і дапаўненьні, прапанаваныя ўрадам, не прадугледжваюць гэтага.

Аўтарытарны рэжым праўленьня для Еўропы ўжо ў мінулым, -адзначыў спадар Сігал, - такі рэжым толькі прывядзе да ізаляцыі краіны і да эканамічнага развалу. На яго думку, беларускі ўрад занадта марудна ажыцьцяўляе эканамічныя рэформы, і крызіс у эканоміцы краіны апошнім часам яшчэ больш абвастрыўся. Спадар Сігал падкрэсьліў, што Злучаныя Штаты не зьбіраліся і не зьбіраюцца ўставаць на бок прэзідэнта ці беларускага парламанту. «Тым ня менш, мы б хацелі, каб Беларусь заставалася вернай тым дэмакратычным прынцыпам, якія яна абавязалася выконваць як член АБСЕ».

Прадстаўнік Дзяржддэпартаманту ЗША заявіў, што Злучаныя Штаты імкнуцца падтрымліваць сяброўскія і канструктыўныя адносіны з Беларусьсю і садзейнічаць інтэграцыі Беларусі ў палітычныя і эканамічныя сістэмы, якія зьявіліся пасьля перыяду «халоднай» вайны.

Сярод удзельнікаў брыфінгу былі Зянон Пазьняк - кіраўнік Беларускага Народнага Фронту, Ян Запруднік -былы карэспандэнт і прадзюсер беларускай службы радыё «Свабода» і Анціі Каркеаківі — эксперт Камітэту адвакатаў па правах чалавека. Спадары Пазьняк і Запруднік падтрымалі думку спадара Сігала аб тым, што беларускі ўрад прытрымліваецца палітыкі фактычнай інфармацыйнай блакады ва ўсіх важнейшых сродках масавай інфармацыі ў краіне.

**Іван МІХАЙЛАЎ.**




# У АДСТАУЦЫ Л.МАЛЬЦАВА - ПАЛІТЫЧНАЯ ПАДАПЛЁКА

Выканаўца абавязкаў старшыні Беларускага Народнага Фронту Лявон Баршчэўскі лічыць, што галоўнай прычынай адстаўкі Леаніда Мальцава з пасады міністра абароны зьявілася яго прынцыповая пазіцыя па пытаньні прымяненьня сілы супраць апазіцыі. «Гэта беларус, і ён бы не пайшоў ні на якія сілавыя метады ў вырашэньні палітычнага супрацьстаяньня, - адзначыў Л.Баршчэўскі. -Лукашэнка баіцца, што ў цяжкі момант ад яго адвернуцца людзі нават з яго блізкага асяродзьдзя і гэта ўжо - сьведчаньне загніваньня рэжыму».

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

# ЛІДЗКІЯ ДЗЯДЫ-96

**2 лістапада 1996 году ў Лідзе было адзначана аднаўленьнем магілы ксяндза Адама Фалькоўскага, устаноўкай памятнага крыжа і жалобным мітынгам па ўсіх палеглых за Беларусь.**



Гісторыя з аднаўленьнем гэтай магілы ў Лідзе цягнецца ўжо каля году. Пасьля публікацый гістарычных матэрыялаў пра героя паўстаньня 1863 году ксяндза Адама Фалькоўскага ў «Лідзкай газеце» і «ПАГОНІ» грамадзкія арганізацыі Ліды пачалі працу па аднаўленьню яго магілы. Былі накіраваныя паперы ў гарвыканкам, апытаныя старыя людзі, здабыты гістарычныя сьведчаньні. Справа планавалася на вясну, але супраць усталі гарадзкія ўлады. Праз месяцы валакіты старшыня Лідзкага гарвыканкаму спадобіўся лістом наступнага зьместу:

*«Шаноўны спадар Суднік С.В.*

*Прадстаўленыя Вамі матэрыялы не даюць падстаў сумнявацца ў тым, што ксёндз А.Фалькоўскі быў расстраляны расейскімі вайскоўцамі ў 1863 годзе.*

*Але прадстаўленыя матэрыялы таксама не даюць падстаў лічыць ксяндза А.Фалькоўскага паплечнікам К.Каліноўскага і героем зямлі беларускай, на якой Вы прапануеце аднавіць яму помнік.*

*...выканаўчы камітэт ня можа даць дазвол на аднаўленьне помніка ксяндзу А.Фалькоўскаму.*

*З павагай,*

*Старшыня гарвыканкаму У.Малец».*

Ня мелі выніку і вусныя звароты і запыты на сесіях гарсавету. І тады народ вырашыў па-свойму. 2 лістапада, у дзень Сьвятых Дзядоў людзі самі паставілі просты драўляны крыж на гэтую магілу, папярэдне асьвяціўшы яго ў фарным касьцёле. На крыжы па-беларуску напісана: «Ксёндз Адам Фалькоўскі, паплечнік Кастуся Каліноўскага, расстраляны царскімі карнікамі ў г.Ліда 24.VI-1863 г. Крыж пастаўлены і асьвечаны 2.XI-1996 г.»

На мітынгу выступалі беларусы і палякі, луналі бел-чырвона-белыя сьцягі. Ва ўладаў хапіла розуму ня ўмешвацца.

**Станіслаў СУДНІК.**

**ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА** Падзеі студзеньскага паўстаньня засталі ксяндза Адама Фалькоўскага на пасадзе пробашча парафіі Ішпольна Лідзкага павету Віленскай губерні. Паходзячы са старогабеларускага шляхецкага роду, ксёндз Адам быў сынам свайго краю і свайго народу. Атрымаўшы Маніфест Народнага Ураду, ён ня доўга вагаўся. Недзе ў лютым з амбона касьцёла ў Ішпольне Адам Фалькоўскі зачытаў Маніфест і заклікаў народ да паўстаньня. Вернікі прыслухаліся да пробашча. Атрады Нарбута, Навіцкага, Урублеўскага папоўніліся новымі людзьмі. З 27 лютага пачалося сьледзтва, а 2 сакавіка ксёндз Адам быў арыштаваны царскімі карнікамі. З траўня ў Вільні пачаўся суд, які вынес сьмяротны вырак. Ксёндз быў дастаўлены ў павятовы горад Ліду і расстраляны 24 чэрвеня 1863 году. Цела было ўкінута ў яму без труны і заліта вапнай. Людзі ноччу пазначылі месца камянямі. У 1919 годзе магіла была знойдзена і лідзкія чыгуначнікі паставілі помнік. У 1940 годзе бальшавікі помнік зьнесьлі ізноў.

# КОЛЬКІ «ПРОСТОГО НАРОДУ» ЖЫВЕ Ў ГОРАДНІ?

За месяц да рэферэндуму Гарадзенскае абласное грамадзкае аб'яднаньне «Ратуша» правяло сацыялагічнае апытаньне сярод гарадзенцаў. Усяго было апытана 167 рэспандэнтаў. Паводле ўзросту яны падзяліліся так: да 20 гадоў - 15,5%; ад 20 да 29 - 16,7%; ад 30 да 39 - 19,8%; ад 40 да 49 - 23,4%; ад 50 да 59 - 13,8%; ад 60 і больш - 10,8%.

22,2% апытаных працуюць на прадпрыемствах; 15,6% - служачыя дзяржустаноў; працаўнікі аховы здароўя і адукацыі - 22,2%; студэнты і навучэнцы - 18,6% і 21,4% пеньсіянеры.

Сярэднюю адукацыю маюць 22,6%; сярэдне-тэхнічную - 21,9%; сярэдне-сьпецыяльную - 27,5%: нясконченую вышэйшую - 14,3%, вышэйшую - 13,7%.

Сярод апытаных было 42,5% мужчынаў і 57,5% жанчынаў.

Вось як разьмеркаваліся адказы на наступныя пытаньні:

**1. Ці ведаеце Вы, што 24 лістапада гэтага году адбудзецца рэспубліканскі рэферэндум?**

1. Так, ведаю - 95,8%
2. Не, ня ведаю - 4,2%

**2. Ці будзеце Вы ўдзельнічаць у рэспубліканскім рэферэндуме?**

1. Так, абавязкова буду - 49,1%
2. Хутчэй за ўсё буду - 27,5%
3. Хутчэй за ўсё ня буду - 8,9%
4. Не, ня буду - 6,6%
5. Мне цяжка адказаць - 7,9%

**3. Ці знаёмыя Вы з праектам новай рэдакцыі Канстытуцыі (праект прэзідэнта)?**

1. Так, знаёмы - 26,3%
2. Хутчэй знаёмы - 19,2%
3. Хутчэй не знаёмы - 25,1%
4. Не, зусім не знаёмы - 17,4%
5. Мне цяжка адказаць - 12%

**4. Ці падтрымліваеце Вы прапановы прэзідэнта?**

1. Так, поўнасьцю - 15,6%
2. Хутчэй падтрымліваю - 13,7%
3. Хутчэй не падтрымліваю - 11,9%
4. Не, зусім не падтрымліваю - 26,3%
5. Мне цяжка адказаць - 32,5%

**5. Ці знаёмыя Вы з другім варыянтам Канстытуцыі, прапанаваным на рэферэндум Вярхоўным Саветам?**

1. Так - 11,4%
2. Хутчэй так - 10,2 %
3. Хутчэй не - 13,2%
4. Не - 47,9%
5. Мне цяжка адказаць - 17,3%

**6. Ці падтрымліваеце Вы праект, прапанаваны Вярхоўным Саветам?**

1. Так - 4,2%
2. Хутчэй так - 11,2%
3. Хутчэй не - 12,6%
4. Не - 20,9%
5. Мне цяжка адказаць - 51,1%

**7. Як Вы лічыце, ці можа зьмяніцца становішча ў краіне пасьля рэферэндуму?**

1. Так, можа - 30,5%
2. Хутчэй так - 14.4%
3. Хутчэй не - 11,4%
4. Нічога ня зьменіцца - 24,5%
5. Мне цяжка адказаць - 19,2%

# ГРАМАДЗТВА

## НЕ ХАЧУ ЖЫЦЬ!

### На Гарадзеншчыне рэзка павялічылася колькасьць самагубстваў.

Нашая газета ўжо паведамляла пра надзвычайны рост самагубстваў у Гарадзенскай вобласьці. Згодна дадзеным статыстыкі, у гэтым годзе за 9 месяцаў зарэгістравана 311 выпадкаў сьмяротных суіцыдаў (у мінулым годзе за тыя ж 9 месяцаў было значна менш - 198).

Вывучэньне выпадкаў паказвае, што каля 80% самагубцаў - гэта мужчыны. Сярэдні ўзрост загінуўшых мужчын - 47.7 году, а сярэдні ўзрост загінуўшых жанчын - 62,7 году. Найбольш схільныя да самагубстваў тыя, каму пераваліла за 40: пасьля гэтага ўзросту колькасьць самагубцаў істотна павялічваецца.

Большасьць загінуўшых знаходзілася ў працаздольным узросьце, а каля 30% - у пеньсійным. Прыкладна кожны шосты з ліку працаздольных нідзе не працаваў.

Асноўныя прычыны, якія штурхалі людзей зьвесьці рахункі з жыцьцём, былі такімі: сямейна-бытавыя (каля 30%), злоўжываньне сьпіртнымі напоямі (каля 25%), псіхічныя захворваньні (каля 6%). Іншымі падставамі зьяўляліся хваляваньні з нагоды зьдзейсьненага злачынства (2%), канфлікты на працы, вучобе (2%), жабрацтва і занядбайнасьць (1,5%). У 6% суіцыдаў выявіць прычыну ўчынку не ўдалося.

Кожны чалавек меў свой асабісты довад перад тым, як разьвітацца з жыцьцём. Разам з тым, цалкам відавочным зьяўляецца тое, што людзі састарэлыя, у якіх памерлі супругі, лічаць сэнс жыцьця страчаным, узрост і хваробы пазбаўляюць іх фізічных і псіхічных сілаў. Ня стрымліваюць нават дзеці ды іншыя сваякі, якія імкнуцца дапамагчы словам і справай. Што ўжо казаць пра тыя выпадкі, калі старога, хворага чалавека кідаюць у адзіноце.

Так, жыхар гораду Ашмяны С.Я., якому ішоў 54-ты год, вымушаны быў звольніцца, бо яму балелі ногі і далей працаваць сантэхнікам ён ня мог. Пеньсію не афармляў, перабіваўся выпадковымі заробкамі. З жонкаю разьвёўся даўно і жыў адзін. Сястра дапамагала яму. Ёй і напісаў С.Я. перадсьмяротную запіску: «...не хачу паміраць галоднаю сьмерцю...» Не пажадаў стаць абузаю...

А.С. не было яшчэ і пяцідзесяці. Пад час працы на прыватнай будоўлі ў прыяцеля зваліўся з даху. Зламаў пазваночнік. Аперацыі не дапамагалі. У ліпені г.г. знаходзіўся на лячэньні ў рэабілітацыйным аддзяленьні 2-й Гарадзенскай бальніцы. Лячэньне вынікаў не прыносіла, аднак выпісаць А.С. не было куды: сваякі забіраць адмовіліся, Ленінскі райсабес адказаў, што ў інтэрнат на дзяржаўнае забесьпячэньне аформіць ня можа, бо А.С. мае працаздольных родзічаў. Пасьля рашэньня сабесу А.С. прыйшоў у прыгнечаны стан і павесіўся на сьпінцы бальнічнага ложка...

Нядаўна пракуратура Гарадзенскай вобласьці, якая і падзялілася інфармацыяй з нашай газетай, зрабіла агляд спраў па самагубствах. «ПАГОНЯ» папрасіла пракаментаваць вынікі агляду пракурора аддзела Віктара Вунцэвіча:

***- Што цікавіла пракуратуру ў справах самагубстваў?***

- Пракуратура разглядае дасканаласьць праверак і сьледзтва па ўсіх фактах самагубстваў. Недахопы, якія былі, не павінны паўтарыцца. Нашая галоўная мэта - разабрацца ў абставінах гвалтоўнай сьмерці чалавека, у прычынах, што прымусілі разьвітацца з жыцьцём, паколькі артыкул 105 Крымінальнага Кодэксу прадугледжвае адказнасьць за давядзеньне чалавека да самагубства. Акрамя таго, аналіз прычынаў самагубстваў дапамагае прыняць меры прафілактыкі гэтых выпадкаў сумесна з органамі ўлады, іншымі ўстановамі.

***- Ці не было маскіроўкі пад самагубства сапраўдных забойстваў?***

- У гэтым годзе не было, раней - здараліся.

***- Ці зафіксаваныя выпадкі давядзеньня да самагубства?***

- У гэтым годзе некалькі разоў узбуджаліся крымінальныя справы з гэтай нагоды (па арт.105 КК), аднак у суд не перадаваліся. Зараз таксама дасьледуюцца такія справы, напрыклад, па горадзе Ліда, па Навагрудзкім раёне. Сьледзтва яшчэ ня скончана...

У Горадні працуе цэнтр сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі моладзі і падлеткам. Пры ім дзейнічае тэлефон даверу, куды могуць зьвярнуцца людзі любога ўзросту. Як ацэньваюць сьпецыялісты цэнтру становішча са ўсплёскам самагубстваў?

- Становішча на Гарадзеншчыне адпавядае і іншым вобласьцям. Лік самагубстваў прыходзіцца на зімні перыяд часу, - гаворыць Аліна Філіповіч, супрацоўнік цэнтру. - На колькасьць суіцыдаў уплывае агульнае становішча сацыяльна-эканамічнага крызісу ў краіне.

***- Што, беларусы сталі больш схільнымі да самагубстваў?***

- Як ня дзіўна - гэта так. Людзі тут памяркоўныя, усё трымаюць у сабе,а гэта перагружае псіхіку. Цяпер да самагубстваў сталі схільнымі ня толькі «псіхахронікі», але і звычайныя грамадзяне, якіх, што называецца, жыцьцё дастала: беспрацоўе, жабрацтва, сямейныя праблемы. Алкагалізм таксама ўскладняе становішча.

***- Чым вашая служба можа дапамагчы?***

- Мы можам аказаць вельмі кваліфікаваную дапамогу. У нас працуюць дактары навук, іншыя сьпецыялісты. Бывае, што на дзяжурстве адказваем на некалькі дзесяткаў званкоў. Некаторыя са званіўшых потым прыходзяць, і мы з імі працуем. Але некаторыя людзі маюць неўраўнаважаную псіхіку, за няўдалай спробай самагубства робяць наступную. Нядаўна сутыкнуліся з такім выпадкам: дзіця насуперак бацькам дэманстратыўна кідаецца пад машыну. Бацькі жахнуліся, а дзіця радуецца - даказаў...

***- Што ў перспектыве?***

- Павінна палепшыцца перш за ўсё эканамічнае жыцьцё, адносіны ў грамадзтве, зьменшыцца канфрантацыя, злоба. Гады ў людзей зьявіцца надзея.

Дык што, будзем спадзявацца? Альбо як?

**Сяргей САМАСЕЙ.**




## АБЯЦАНКІ ЛУКАШЭНКІ НА ХЛЕБ НЕ НАМАЖАШ.

У адпаведнасьці з апошнімі дадзенымі Міністэрства статыстыкі і аналізу (па стану на 25 кастрычніка) сума запазычанасьці па заробнай плаце прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі склала 237,1 мільярда рублёў, у тым ліку за верасень — 233,8 мільярда. Удзельная вага агульнай запазычанасьці ў фоньдзе заробнай платы за верасень склала 6,5 працэнта. Больш за ўсё запазычылі за верасень сваім работнікам калгасы, саўгасы і перапрацоўчыя прадпрыемствы. Пратэрмінаваная запазычанасьць па заробнай плаце на 25 кастрычніка па вобласьцях склала: Менская вобласць - 59,6 мільярда рублёў, Гомельская - 55,4, Брэсцкая - 41,7, Магілёўская - 31,8, Гарадзенская - 28,9, Віцебская - 10,7 мільярда. Запазычанасьць па Менску - 9 мільярдаў рублёў. Дадзеныя афіцыйнай статыстыкі пацьвердзілі, што ўказ прэзідэнта рэспублікі аб ліквідацыі запазычанасьці па заробку да 20 кастрычніка своечасова ня выкананы.

## КАЛІ ВЫЧАРПАЛІСЯ РЭЗЕРВЫ

Нацыянальны банк Беларусі накіраваў камерцыйным банкам тэлеграму, згодна з якой дазваляецца продаж замежнай валюты суб'ектам гаспадараньня рэспублікі для пакрыцьця асноўнага доўгу і працэнтаў па валютных крэдытах. У гэтых мэтах банкі могуць без абмежаваньня сумы выкарыстоўваць замежную валюту, купленую ў насельніцтва, а таксама валюту, набытую на міжбанкаўскім валютным рынку.

Па сьцвярджэньні кіраўніцтва Нацбанку, гэта робіцца з мэтай стабілізацыі банкаўскага сектару і вырашэньня праблемы неплацяжоў.

## АБВЯЛІ СЯБЕ ВАКОЛ ПАЛЬЦА

31 кастрычніка 1996 году Наваполацкае вытворчае аб'яднаньне «Нафтан» працавала ў межавым тэхналагічным рэжыме. У гэты дзень на нафтаперапрацоўчым заводзе заставалася для перапрацоўкі толькі 4,9 тысячаў тон нафты. У папярэднія двое сутак перапрацоўвалася ня больш чым 4 тысячы тон нафты ў дзень, у той час як яшчэ ў верасьні — 24-27 тысячаў тон нафты штодзённа. Асноўнай прычынай гэтай сітуацыі зьяўляецца рэзкае скарачэньне паставак нафты з Расеі нафтавымі кампаніямі «ЛукОЙЛ», «Юкас» і іншымі, што, у сваю чаргу, выклікана наступным: больш нізкай цаной на нафту, пастаўляемую з Расеі ў Беларусь, у параўнаньні з цэнамі на гэтую сыравіну ў іншых краінах Еўропы; няздольнасьцю Беларусі своечасова разьлічвацца за пастаўляемую нафту валютай; адменай з боку Расеі мытных пошлінаў на вываз нафты за межы гэтай краіны, у выніку чаго Беларусь, пастаўкі нафты ў якую не абкладваліся мытнымі пошлінамі, страціла гэтую сваю перавагу.

На Наваполацкім нафтаперапрацоўчым заводзе ў студзені-верасьні 1996 году перапрацавана 5 706 038 тон нафты (103,3 працэнта да студзеня-верасьня 1995 году), у тым ліку здабываемай у самой Беларусі. Магутнасьці ж «Нафтана» - аднаго з найбуйнейшых нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў Еўропы - разлічаны на перапрацоўку да 25 мільёнаў тон нафты ў год.

## ТОЛЬКІ АЭС НАМ НЕ ХАПАЛА

У Беларусі будзе прадоўжана вывучэньне магчымасьці будаўніцтва атамнай станцыі. Пра гэта паведамілі ў Міністэрстве паліва і энергетыкі, паколькі ва ўмовах абмежаванасьці ўласных энергарэсурсаў альтэрнатывы разьвіцьцю ў рэспубліцы ядзернай энергетыкі няма. Сьпецыялісты Міністэрства займаюцца пошукамі пляцовак і ўсімі відамі работ для таго, каб разьвіваць гэты накірунак у рэспубліцы. Эксплуатацыя АЭС магутнасцю больш чым 2000 мВт дасць штогадовую эканомію паліва ў суме каля 200 млн. долараў у параўнаньні са станцыямі, якія выкарыстоўваюць арганічныя віды паліва. А з ростам цэн на арганічнае паліва эканомія складзе да 360 млн. долараў (разьлік зроблены на перспектыву да 2005 году).

## З КРАЙНАСЬЦІ Ў КРАЙНАСЬЦЬ

**30 кастрычніка ў Лідзе прайшла чарговая сесія Лідзкага гарадзкога Савету. Сесія разгледзела вынікі выкананьня бюджэту за 9 месяцаў, вынікі выкананьня пастановы Савету ад 1994 году па паляпшэньню медыцынскага абслугоўваньня насельніцтва, праграму прыватызацыі камунальнай уласнасьці і пералік аб'ектаў, якія падлягаюць прыватызацыі. На сесіі прысутнічаў намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Сямён Домаш.**

Даходная частка бюджэту выкананая на 72.4% ад гадавога плану, а расходная - на 76.4% , што само па сабе на фоне 50% у цэлым па краіне выглядае больш чым прыстойна. Прадпрыемствы, якія працуюць са стратамі, традыцыйныя: Лідсельмаш, мясакамбінат, Лідабудканструкцыя. Медыцынскі воз гораду на бальшак ня выехаў. Праблемаў за 2 гады ня зьменшылася. Не дапамагло і тое, што галоўны ўрач гораду спадар Енка стаў дэпутатам Вярхоўнага Савету.

Праграма прыватызацыі вялікіх спрэчак ня выклікала, а вось пералік аб'ектаў, якія падлягаюць прыватызацыі ў IV квартале 1996 году і ў 1997-м годзе - гэта зусім іншая справа. А іншая таму, што вертыкаль «хіснулася» ў чарговую крайнасьць. Калі дагэтуль працэс прыватызацыі ўсяляк тармазіўся, дык зараз вырашылі прадаць практычна ўсю гандлёвую сетку гораду. Павінен быць прыватызаваны 41 аб'ект гандлю. Сярод іх такія монстры, як ГВП «Ліда», ГВФ «Лідчанка», ГЦ «Патсдам». 25 аб'ектаў, акрамя гэтага, ужо здадзеныя ў арэнду і могуць быць выкупленымі. Сярод іх усе рэстараны, прадпрыемствы бытавога абслугоўваньня і найбуйнейшы універмаг гораду «Дом гандлю». Такая рэзкая зьмена курсу аказалася не па зубах дэпутатам і яны адмовіліся галасаваць як «за», так і «супраць». Выйсьце знайшлі ў тым, што далі дазвол аддзелу прыватызацыі да канца году рабіць усё, што хоча, хоць прыватызаваць увесь горад, а пералік аб'ектаў, што будуць прыватызавацца ў 1997 годзе, разгледзець на наступнай сесіі.

Дэпутаты адмовіліся ўключыць у павестку дня сесіі пытаньне, прапанаванае дэпутатам Савету новага скліканьня Станіславам Суднікам «Аб выбарах у Лідзкі гарадзкі Савет». Нагадаем, што сёньняшні Лідзкі гарсавет засядае ўжо 6 гадоў і, па вялікаму рахунку, даўно зьяўляецца нелігітымным, але тым ня менш, адмовай разглядаць гэтае пытаньне дэпутаты выказалі намер пасядзець яшчэ. Разам з тым, нелігітымнасьць гарсавету не такая ўжо бяскрыўдная справа. Так, шэраг лідзкіх камерцыйных фірмаў ужо як год ня плоцяць у мясцовы бюджэт камунальнага падатку, пастанова аб якім была прынятая пасьля сыходу тэрміну легітымнасьці Савету. Бюджэт гораду недалічваецца мільёнаў рублёў, а падаткавая інспекцыя нічога ня можа зрабіць. Пастанова нелігітымнага Савету ня мае юрыдычнай сілы.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## А ХТОСЬЦІ Ў МАЛАДОСЬЦІ АБЯЦАЎ ПАМЕРЦІ ЗА «ВЛАСТЬ СОВЕТОВ»...

**«Будзьце пільнымі! Зьнікла масла, беньзін. Даражэюць хлеб і малако. Па нашай інфармацыі, у вёсцы Бершты Шчучынскага раёну зьніклі з продажу гумовыя боты і целагрэйкі. Мафія спрабуе выклікаць незадавальненьне народу перад рэферэндумам!» - з такой перасьцярогай на сходзе гарадзенскіх «афіцыйных» ветэранаў 31 кастрычніка да сваіх паплечнікаў зьвярнуўся старшыня гарадзкога Савету ветэранаў Іван Абросімаў.**

«Мы становімся на такую ступень, калі можа ўзьнікнуць грамадзянская вайна. Становішча ў эканоміцы цяжкае. З 54-х найбуйнейшых прадпрыемстваў Горадні толькі 28 зводзяць канцы з канцамі. Вінаватыя ў гэтым тыя, - сказаў далей сп.Абросімаў, - хто разваліў вялікі Саюз», «расхлябаныя падкупленыя молайцы, якія махалі кулакамі ў бок дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу» і, зразумела, дэпутаты. З галоўным з іх - Сямёнам Шарэцкім - гарадзенскія дэлегаты «веча», у ліку якіх быў і сп.Абросімаў, зьбіраліся разабрацца проста на Усебеларускім сходзе («Мы крычалі: «Паехаць за нім на машыне і прывезьці сюды!») Кіраўнік гарадзенскіх ветэранаў паведаміў таксама, што дэлегаты сходу даручылі намесьніку старшыні Вярхоўнага Савету Юрыю Малумаву правесьці сярод дэпутатаў «працу», каб парламант да рэферэндуму на паседжаньні не зьбіраўся.

Разам з мафіяй і Вярхоўным Саветам насьцярожваюць гарадзенскіх адстаўнікоў БНФ і Захад. Дзеячы фронту, аказваецца, штодня стараюцца «укласьці ў галовы моладзі гарадзенскіх медінстытуту і універсітэту буржуазную ідэалогію», а заходнія сьпецслужбы ставяць усялякія перашкоды на шляху інтэграцыі Беларусі і Расеі. У якасьці прыкладу быў названы сарваны кантракт на пастаўку беларускай бульбы ў Маскву і Санкт-Пецярбург: палякі прапанавалі расейцам свой тавар, пры гэтым



у два разы таньней.

«А таму, - сказаў на сходзе дэлегат ад Горадні на IV Усебеларускім сходзе афіцэраў Іван Лебядзеў, - у нас вайна яшчэ ня скончылася».

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



СПОРТ

СПРЫНТ

Упершыню ў гісторыі нацыянальных чэмпіянатаў краіны па футболе ў мацнейшай лізе будзе гуляць каманда са Слоніма.

У нядзелю «Камунальнік» перамог (5:1) «Будаўнік» са Старых Дарог, а асноўныя канкурэнты слонімскай каманды ФК «Гомель» і «Хімік» са Сьветлагорску згулялі паміж сабой унічыю - 0:0. У турнірнай табліцы чэмпіянату каманд II-й лігі слонімская каманда заняла другое месца ўсьлед за магілёўскім «Трансмашам».

Гандбалісты менскага СКА свае "хатнія" гульні у Лізе чэмпіёнаў зьбіраюцца праводзіць у Германіі. Сваю адмову гуляць у Беларусі кіраўніцтва каманды патлумачыла "няпэўнай палітычнай сітуацыяй" у краіне.

Чэмпіянат Беларусі па хакеі. "Неман" - "Палімір" 4:1.

Усходне-Эўрапейская хакейная ліга. "Юнацтва" - "Неман" 0:6 і 3:6.

# НЕ ХАПІЛА ГАРАДЗЕНЦАЎ?

**3 лістапада. Горадня. Адборачная сустрэча Кубка Эўропы па валейболе. Беларусь-Францыя - 0:3. У гульні не бралі ўдзел гульцы гарадзенскага «Камунальніка», якія ў Харватыі сустракаліся ў розыгрышы Кубка Канфедэрацыі з «Металікам» з Осіека.**

Толькі ў выпадку перамогі над французамі беларуская каманда, пасьля дзьвюх паразаў на старце адборачнага турніру, пакідала сабе мізэрныя шанцы на выхад у фінал Кубка Эўропы.

Чэмпіёны Эўропы, якіх трэніруе вядомы расейскі сьпецыяліст Уладзімір Кондра, дыктавалі ўмовы гульні з першай і да апошняй яе хвілінаў.

Для перамогі ў першай партыі (15:6) французам хапіла 25 хвілінаў. Столькі ж часу спатрэбілася на другую (15:2) і трэцюю (15:7) партыі. Цікава, што, спазнаўшыя смак вялікага валейболу гарадзенскія заўзятары, якія бітма набілі ўтульны спарткомплекс на вуліцы Гагарына, нават не спрабавалі крытыкаваць гульцоў нашай каманды -настолькі адчувальнай была розьніца ў класе гульні.

І ўсё ж станоўчыя эмоцыі ў гэты дзень аматары валейболу атрымалі. Літаральна перад пачаткам гульні стала вядома, што гарадзенскі «Камунальнік» з лікам 3:0 перамог у гасьцях харватаў. Як паведаміў «ПАГОНІ» галоўны трэнер «камунальнікаў» **Анатоль Паняшын**, супрацьстаяў гарадзенцам вельмі вопытны клуб. У запоўненай харвацкімі заўзятарамі зале знайшлася і група падтрымкі нашай каманды - 50 украінскіх «блакітных касак» з міратворчага батальёну. Самай напружанай была першая партыя. Харваты вялі ў ліку 11:4. Але ў гэты момант удала запрацаваў гарадзенскі блок, што і вырашыла зыход партыі - 15:13 на нашу карысьць. Другую партыю разгубленыя харваты прайгралі ўчыстую - 4:15. У трэцяй партыі зноў зацятая барацьба. Наперадзе гаспадары - 12:10. І зноў лёс партыі вырашае выдатная гульня гарадзенцаў на боку . 15:12 - і «Камунальнік» практычна забясьпечыў сабе выхад у наступны тур Кубка Эўрапейскай Канфедэрацыі валейболу. Адказная сустрэча з «Металікам» пройдзе ў нядзелю, 10-га лістапада а 17-й гадзіне ў Горадні.

Што ж датычыць зборнай каманды нашай краіны, то яе гарадзенскія заўзятары ўбачаць цяпер толькі зімой. 21 сьнежня беларусы будуць прымаць зборную Турцыі.



# КІНААФІША ГОРАДНІ

**«ГРОДНА»:** 6-10 лістапада - «Барханаў і яго целаахоўнік» (крымінальная камедыя) - 9.50, 12.00, 14.10, 16.20, 18.30, 20.40. ВІДЭА: 6,7 лістапада - «Разборка ў Бронксе» (баявік). 8,9 лістапада - «Удар маланкі» (баявік). 10, 11, 12 лістапада - «Кіпцюр тыгра» (баявік). Сеансы: 10.00, 12.00, 14.00,16.00, 18.00, 20.00.

**«КАСТРЫЧНІК»:** 6 лістапада - «Лічаныя секунды» - 15.00, 16.50, 18.40, 20.30. «Уладар старожак» - 10.00 (ільготны), 11.20, 12.40, 14.00, 15.20. «Джэк-папрыгун» - 15.10, 17.10. «Спакушаная сном» (эротыка) - 19.10, 20.40. ВІДЭА: - 7,8 лістапада - «Часамі яны вяртаюцца» - 15.00. «Цягнік з грашыма» - 16.50. «Забітая нявіннасьць» - 18.40, 20.30. Кожную сераду і нядзелю - школьная дыскатэка - 18.30. НАЧНЫ КЛУБ: штодзённа музычна-забаўляльная праграма - 22.00 (панядзелак і аўторак - выходныя).

**«КОСМАС»:** 6,7 лістапада - «Чорны каршак» - 11.50, 13.40, 15.30, 17.20, 19.10, 21.00. ВІДЭА: «Ад змроку да сьвітаньня» - 10.30, 12.30, 14.30, 16.30. «Місія немагчыма» - 18.30, 20.30.

**«ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА»:** 7-10 лістапада - «Скрыжаваньне міроў» (фант.баявік) - 12.10, 16.30, 20.50. «Сьценка на сьценку» (баявік) - 14.20, 18*40. «Уцёкі з Лас-Анджэлеса» (фантастыка) - 13.20, 15.10, 19.00, 21.00. «Эротыка забойства» (да 18 гадоў) - 17.00. ФІЛЬМ-ДЗЕЦЯМ: 7,8 лістапада - «Сястрыца Алёнушка і браток Іванушка» - 11.30. «Гарбун з Натэрдаму» - 11.30.

**імя ПУШКІНА:** 6 лістапада - «Лясны воін» - 10.00. «Ад змроку да сьвітаньня» - 12.00, 16.00. «Ніка-9» - 14.00, 18.00. Дыскатэка - 20.00. 7 лістапада - «У пошуках прыгодаў» - 10.00, 15.30. «Ад змроку да сьвітаньня» - 14.50. «Баланс сілы» (каратэ) - 13.40, 17.20. 8 лістапада - «У пошуках прыгодаў» - 10.00. «Баланс сілы» - 12.00, 16.00. «Ад змроку да сьвітаньня» - 14.00. Дыскатэка - 18.00, 21.00.

**«УСХОД»:** аўтаадказчык - 47-81-29

# ДЗЕНЬ СКАРЫНЫ Ў ЧЭХІІ

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ
з Прагі

**1517-1519. У старым месьце пражскім выдатны беларускі асьветнік Францішак Скарына выдаў свой беларускі пераклад Біблії.**

Памятная шыльда з такім надпісам з мінулага тыдня ўпрыгожвае сьцены «Клеменціна» - чэскай нацыянальнай бібліятэкі. 31 кастрычніка ля муроў былога езуіцкага калегіюма сабралося некалькі дзесяткаў беларусаў - мясцовых і прыехаўшых рознымі шляхамі з радзімы выбітнага гуманіста. Гасьцей чакала ўнікальная экскурсія па сховішчах старажытнай бібліятэкі, што месьціцца паблізу славутага Карлавага мосту. Пазьней адбылося ўрачыстае адкрыцьцё мемарыяльнай дошкі, якую выканаў вядомы менскі скульптар Алесь Дранец.

Афіцыйную дэлегацыю ўзначальваў намесьнік прэм'ер-міністра Беларусі Русакевіч. У яе уваходзілі таксама міністр культуры Сасноўскі, міністр замежных справаў Сянько, мэр Менску Ярмошын, архітэктары і скульптары. Вёў цырымонію пасол Вайцянкоў. Кажуць, што ўсе яны ў той ці іншай ступені спрычыніліся да ўвекавечаньня імя вялікага асьветніка ў Празе. Дзіўна, аднак, што не запрасілі дырэктара нацыянальнага скарынаўскага цэнтру Адама Мальдзіса. А Ганна Сурмач - старшыня згуртаваньня беларусаў усяго сьвету - дабіралася ў Прагу сваім ходам.

Цэнтральнай дзеяй дня сталася адкрыцьцё помніка Францішку Скарыну на Градчанах. Постаць беларускага першадрукара ўвасобіў у бронзе скульптар Эдуард Астаф'еў, архітэктар кампазіцыі - Юры Казакоў. Каля помніка ўсталяваны памятны знак, які адлюстроўвае другі пражскі перыяд жыцьця Скарыны: «1535-1539. У гэтых месцах працаваў каралеўскім батанікам выдатны беларускі гуманіст і ўсходнеславянскі першадрукар Францыст Скарына». Усе надпісы выкананы і па-чэску. На адкрыцьці адмыслова граў вайсковы аркестр. Купка пражскіх інтэлігентаў прыйшла з транспарантам «Беларускія дэмакраты, мы з вамі». Перыядычна чуліся лозунгі салідарнасьці. Каларытна выглядаў паэт Сяржук Сокалаў-Воюш з сваім сямействам - усе прыбраныя ў бел-чырвона-белыя стужачкі. Пранікнёна выступіў Пётр Краўчанка, старшыня парламанцкай камісіі, які прыехаў на ўрачыстасьць за свой кошт. Менавіта Краўчанку належала ідэя ўсталяваньня помніка і значная падрыхтоўчая праца. Яшчэ ў 1989 годзе тагачасны міністр замежных справаў прывёз у Прагу каля 40 дзеячаў беларускай культуры. А заключны акорд прагучаў у лютым 1996 году культурнай акцыяй «Беларусы ў Празе» - праз два тыдні пражскі магістрат даў канчатковую згоду на ўшанаваньне Скарыны.

У гісторыі кожнай нацыі ёсьць асобы, якія могуць згуртаваць нацыянальную супольнасьць. У чэхаў гэта Ян Гус, у беларусаў - Францішак Скарына. Наш славуты асьветнік ўшанаваны ўжо ў многіх гарадах - ягонае сонца маладзіковае сьвеціць у Полацку і Кракаве, Лідзе і Падове. Цяпер і ў Празе. Але дагэтуль няма помніка ў Менску.

# КРОК НАВЕРХ

**2.11.96. «НЁМАН» - «ДЫНАМА-93» - 1:0**

**Перамогу гарадзенскай камандзе напрыканцы сустрэчы прынёс 18-гадовы Сяргей Цыбуль.**

Гэтая сустрэча павінна была адбыцца яшчэ 4 верасьня. Але з-за таго, што адразу чатыры гульцы «Нёману» (Адамовіч, Барысейка, Цыбуль, Пятроў) у гэты час гулялі ў складзе зборнай Беларусі ў адборачным турніры чэмпіянату Еўропы сярод юнакоў (да 18 гадоў), гульню перанесьлі на лістапад. Тады, у верасьні, наўрад ці хто з заўзятараў «Нёману» мог уявіць сабе, што ад выніку гэтай сустрэчы ў многім будзе залежыць, быць ці ня быць гарадзенцам у мацнейшай лізе.

Статыстыка папярэдніх гульняў камандаў паміж сабой на гарадзенскім стадыёне была відавочна на карысьць «Нёмана» (дзьве перамогі і дзьве нічыі). Помнілі аб гэтым, напэўна, і госьці з Менску, якія з нейкай злой рашучасьцю адразу з сьвістком арбітра пайшлі ў наступ на браму Альберта Рыбака. Да галявых момантаў, аднак, справа не даходзіла. Затое першая ж сапраўдная контратака «Нёмана», якая ўдалася толькі на 27-й (!) хвіліне, ледзь не прывяла да забітага гала. Мардас кінуў у прарыў па леваму флянзе Пузыну, а той, абгуляўшы абаронцу «Дынама-93», зрабіў востры прастрэл у цэнтр штрафной пляцоўкі. Аднак пасьля ўдару Андрэя Сярогіна мяч прасьвістаў вышэй перакладзіны. З гэтага моманту і да канца тайму ініцыятывай валодаў ужо «Нёман». Двойчы на добрыя пазіцыі партнёры выводзілі Дзьмітрыя Барысейку, з некалькіх метраў біў Уладзімір Касюк. Аднак на перапынак каманды пайшлі пры нулях на табло.

Зьмяніць лік павінна была ўжо першая ў другім тайме атака менчукоў. Лепшы гулец «Дынама-93» Радзіслаў Арлоўскі ў штрафной саперніка перайграў двух абаронцаў і прастрэліў ледзь не па лініі брамы. На шчасьце «Нёмана», паўабаронца менскай каманды Вадзім Скрыпчанка па мячу не трапіў. Надалей абаронцы «Нёмана» такіх магчымасьцяў для гола су-



ФОТА Я. ВАНЮКЕВІЧА

пернікам стварыць не далі. Гульня набліжалася да, здавалася, непазьбежнага нічыйнага зыходу, калі трэнер «Нёмана» Вячаслаў Сівакоў зрабіў апошнюю ў гульні замену. Замест Барысейкі на поле выйшаў Сяргей Цыбуль, які ўжо праз некалькі хвілінаў трапіў у абдымкі да сваіх аднаклубнікаў. Атрымаўшы на лініі чужой штрафной пляцоўкі мяч, малады нападнік расстраляў левы кут менскай брамы.

Апошнія хвіліны гульні прайшлі ў атаках «Дынама-93», але лік на табло не зьмяніўся.

Пасьля гэтай сустрэчы «Нёман» перабраўся з 15-га на 13-е месца і практычна зьняў пытаньні наконт магчымага «вылету» ў II-ю лігу. Сёньня а 14-й гадзіне гарадзенцы гуляюць з рэчыцкім «Ведрычам», а ў нядзелю , 10 лістапада - з «Маладэчнам».

**Вітаўт РУДНІК.**

# ЦІ ДАЧАКАЕЦЦА КАЛОЖА ЛЕПШЫХ ЧАСОЎ?



Каля трох гадоў таму назад рэстаўратары з горада Ліможа зацікавіліся Каложскай царквой. Фірма «Бланшон» за свой кошт прывозіла ў Горадню экспертаў Рады Эўропы. Год назад на праектныя працы Рада выдаткавала каля 7 тысяч долараў. Чатыры спецыялісты з Горадні некалькі месяцаў вучыліся на Захадзе рэстаўрацыйнаму майстэрству. Кіраўніцтва «Бланшону» спадзявалася праз РЭ атрымаць добры заказ, узьняць аўтарытэт сваёй фірмы ў сьвеце, а беларусам адрэстаўраваць ці ня самы значны помнік нашага сярэднявечча.

Нядаўна генеральны дырэктар «Бланшону» Жан-Луі Дасанвіль зноў наведаў Горадню. На гэты раз з сумнай навіной.

Палітычнае і эканамічнае становішча ў Беларусі сталі настолькі безнадзейнымі, што няма сэнсу адкрываць у нас прадпрыемства. У выпадку, калі б спадар Жан-Луі ўсё ж гэта зрабіў, кампаньёны фірмы маглі б палічыць, што яна банкрутуе. Ніводная салідная фірма не возьме на сябе рызыку працаваць у такіх умовах.

Перад апошнім прыездам у Горадню спадар Дасанвіль пабываў у Вільні. Пасьля размовы з мэрам горада, ён вырашыў распачаць рэстаўрацыйныя працы ў Летуве.

Горадня французу вельмі падабаецца. Калі сітуацыя ў Беларусі зьменіцца, ён спадзяецца зноў працаваць у нас. Толькі ці дачакаецца Каложа?

**Дз.КІСЕЛЬ.**

# ГАРАСКОП НА ТЫДЗЕНЬ

**БАРАН** (21.3 - 20.4) На гэтым тыдні будзе шмат нагодаў да застольляў. Вольныя Бараны закахаюцца на сьмерць. У працы будзе шмат посьпехаў.

**БЫК** (21.4 - 20.5) У вольныя ад працы дні будзе цяжка змабілізавацца. Але трэба гэта зрабіць, бо менавіта зараз ёсьць шанц на посьпех. У пачуцьцях усё будзе добра, хаця ж не зусім так, як Вы чакалі.

**БЛІЗЬНЯТЫ** (21.5 - 21.6) Лепшыя дні для Блізьнятаў. Не сядзіце ў хаце, а выпраўляйцеся ў вандроўку. Толькі сьцеражыце вушы ад холаду. У працы пад час цяжкіх хвілінаў дапаможа нехта з-пад знаку Льва.

**РАК** (22.6 - 22.7) Дні спрыяюць умацаваньню сямейных сувязяў. Але падрыхтуйце і «маленькі прыём» для нечаканых гасьцей. Падчас сустрэчы з гасьцямі да Вас прыйдзе добрая думка. Нейкі Скарпіён дапаможа яе правесьці ў жыцьцё.

**ЛЕЎ** (23.7 - 23.8) Падчас доўгіх выходных будзеце ў «сваёй талерцы». Зачаруеце ўсіх сваім шармам і ўсьмешкай. А можаце нават заваяваць сэрца каго-небудзь самотнага з-пад знаку Быка.

**ДЗЕВА** (24.8 - 23.9) Вам хочацца нешта рабіць, а тут трэба адпачываць. Пагадзіцеся зь лёсам і аддайцеся прыемнасьцям жыцьця. Як вернецеся на працу, і так хопіць работы. Асьцерагайцеся ў гэтыя дні расказваць каму-небудзь пра сябе і сваю сям'ю.

**ШАЛІ** (24.9 - 23.10) Вам працягвае дапамагаць Вянера. Дык добра адпачывайце ў вольныя дні. Зачаруеце кагосьці з-пад знаку Барана. Гэта ня той партнёр, аб якім Вы марылі, але працягнуць знаёмства надалей не пашкодзіць.

**СКАРПІЁН** (24.10 - 22.11) Нялёгкія дні для энэргічных Скарпіёнаў. Хочацца кудысьці пайсьці , нешта зрабіць, а тут - выходныя. Скарыстайце з магчымасьцяй і зьвярніце больш увагі на сям'ю. Праверце, як вучацца дзеці.

**СТРАЛЕЦ** (23.11 - 21.12) На дворы - восень, а ў сэрцы - гарачае лета. Кахаеце з узаемнасьцю, што дадае сілы як у жыцьці, так і ў працы. Праўда, могуць узьнікнуць невялікія праблемы са здароўем.

**КАЗЯРОГ** (22.12 - 20.1) Зоркі паказваюць, што найбліжэйшы тыдзень будзе вельмі ўдалы. Акрамя посьпеху ў сяброў, шмат магчымасьцяў для павелічэньня даходаў. Можна згуляць у латарэю.

**ВАДАЛЕЙ** (21.1 - 19.2) Пасьля поўных шчасьця выходных трэба будзе адразу ўключыцца ў працу. Але ўсё ў Вас атрымаецца, што заўважыць і начальства. Узнагарода не прымусіць доўга чакаць.

**РЫБЫ** (20.2 - 20.3) Нядрэнны стан здароўя, але трэба падрыхтавацца да пахаладаньняў. У гэтым выпадку шпацыр з каханым чалавекам пройдзе ў вясновым настроі. З аўторка посьпехі ў працы.

# КРЫМІНАЛ

## ЧАТЫРЫ ТРУПЫ З РАСЕІ

Цяжкая эканамічная сітуацыя і беспрацоўе на Беларусі прымушаюць нашых землякоў шукаць працу за межамі. Тысячы танных і працавітых «остарбайтараў» зь Беларусі наваднілі Польшчу і іншыя краіны Эўропы. Але большасьць беларусаў шукае шчасьце на Усходзе, у Расеі. Пра дзікія ўмовы, у якіх жывуць нашыя, тут ужо, пэўна, «вестарбайтары» у Маскве, пісалася ня раз. І вось на мінулым тыдні ў г.Масты, што на Гарадзеншчыне, зь белакаменнай дастаўлены тры труны. Па афіцыйнай версіі, хлопцы згарэлі ў вагончыку пад час пажару, у якім самі і былі вінаватыя. Але праламаны чэрап аднаго зь іх наводзіць на версію, што беларусы спачатку былі зьбітыя і абрабаваныя, а пасьля яшчэ і падпаленыя.

Адпаведным чынам характарызуе сталіцу «старэйшага брата» і той факт, што пры выдачы целаў з трупярні са сваякоў загінуўшых запатрабавалі па 600 тысячаў расейскіх рублёў за кожнага.

Чацьвёртага нябожчыка прывезьлі з Расейскай Поўначы. Чалавек паехаў прадаць кватэру. Вярнуўся бяз грошай і ў труне.

## ГІНУЦЬ ДЗЕЦІ

Не пасьпела Ліда акрыяць ад весткі пра гібель траіх дзяцей, засыпаных зямлёю , як прыйшлі цяжкія навіны з Лідзкага раёну. Недалёка ад Гудаў быў забіты і закапаны 11-гадовы хлопчык. А ў Верх-Лідзе двое дзетак (6 і 11 гадоў) памерлі ад атручваньня.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 597
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 72-35-61, 72-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-72-37-14 (23.00-10.00)



Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня:
230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 3685 Наклад 12665
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 5.11.96

Рэдактар Мікола Маркевіч